**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 49 (817) 3 снежня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Калі адплача нудны дождж,
І вецер стоміцца санліва,
Цішком тады ўсяго за ноч,
Зіма прыходзіць нейкім дзівам.

Прачнешся ранкам – за акном
Бялюткі снег ляжыць навокал.
Пад снегам сцежка, поле, дом,
Свет белы ўвесь – куды ні кінеш вокам.

Прыткнешся тварам да акна –
Бялюткасць паланяе вочы,
Душа пяе – і не да сна,
Міжволі ў казку верыць хочаш.

Зімой чакае шмат выгод:
Канькі і лыжы, санкі,снежкі,
Каляды, ёлка, Новы год,
Забавы, жарты і ўсмешкі…

*Пётр Шакола*

**Глыбокае. Зіма. Новыя краявіды!**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



Падача абвестак па тэлефоне № 166



## З 1 снежня забаронена эксплуатацыя аўтамабіляў з летнімі шынамі

**У Беларусі з 1 снежня па 1 сакавіка забаронена эксплуатацыя аўтамабіляў з летнімі шынамі, паведаміў старшы інспектар арганізацыйна-аналітычнага ўпраўлення міліцыі грамадскай бяспекі МУС Валерый Лабяк.**

«У зімовы перыяд аўтамабілісты практычна штодзень сутыкаюцца з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я. Начныя замаразкі, ападкі пры тэмпературах каля нуля робяць праезную частку слізкай. Штогод наступствамі рэзкага зніжэння тэмпературы або выпадзення снегу становяцца так званыя дні бляхара, калі рэгіструецца ўсплёск дробных аварый», – адзначыў Валерый Лабяк.

Паводле яго слоў, вінаватымі ў большасці такіх здарэнняў становяцца вадзіцелі аўтамабіляў на летніх шынах. Справа ў тым, што летняя гума страчвае эластычнасць і шчэпныя ўласцівасці ўжо пры тэмпературах каля нуля, у выніку чаго тармазны шлях павялічваецца. Спецыялісты рэкамендуюць ставіць зімовую гуму загадзя, калі сярэднясутачная тэмпература дасягае 7 градусаў вышэй за нуль.

Менавіта таму ў Беларусі Правіламі дарожнага руху ўведзена забарона на выкарыстанне летніх шын зімой.

Адрозніць дазволены зімой «аўтаабутак» можна па маркіроўцы ў выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і са сняжынкай унутры ці знакаў «M+S», «M&S», «M.S», «M S» або «All seasons». Вышыня малюнка пратэктара зімовых шын павінна быць не менш як 4 мм.

З 1 снежня за эксплуатацыю аўтамабіля з летнімі шынамі будзе спаганяцца штраф.

*БелТА.*

ISSN 2077-8023


### Полацкі раён

# Зноў урачы пад следствам

■ Станіслаў Раманчук.

**У нас прынята ганарыцца даступнасцю медыцыны і развітай сеткай лячэбна-прафілактычных устаноў аховы здароўя.**

Аднак, у Полацкім раёне нядаўна зноў аказаліся ў цэнтры гучнага скандала мясцовыя медыкі. Не так даўно тут з-за неналежнага аказання медыцынскай дапамогі ў Навапалацку памёр збіты на дарозе байкер. Напрыканцы лета Полацкі міжраённы аддзел Следчага камітэта заняўся крымінальнай справай па справе неналежнага выканання прафесійных абавязкаў медработнікамі, калі маладая палачанка напісала адпаведную заяву. Яе дзяўчынка ва ўзросце двух з паловай гадоў цудам засталася жывой, але засталася па-сутнасці інвалідам. Дзіця аказалася ў коме праз нейкі тыдзень пасля захворвання, і яе выратавалі толькі вопытныя сталічныя ўрачы. Жахлівая гісторыя пачалася з таго, як высветлілася, што малышка праглынула батарэйку-таблетку. Двойчы прызначаўся рэнтген у двух мясцовых бальніцах, але нідзе ўрачы, магчыма, з-за нявопытнасці, альбо з-за састарэлага абсталявання, не ўбачылі на здымках іншароднага цела. У выніку дзяўчынка перанесла тры складанейшыя аперацыі, засталася з пашкоджаным мозгам і без страваводу, ёй патрабуецца працяглая рэабілітацыя. Па гэтаму факту ідзе следства, прызначана кваліфікаваная судова-медыцынская экспертыза. Сваё ведамаснае расследванне інцыдэнта правядзе і Міністэрства аховы здароўя Беларусі. Хто б ні быў прызнаны вінаваты ў гэтай бядзе, але здароўе дзіцяці не вернеш. Гэта здарэнне вучыць, што за дзецьмі павінен быць заўсёды належны догляд, а на кожным працоўным месцы знаходзіцца сапраўдныя прафесіяналы, тады такіх гісторый стане меней.

### Пастаўскі раён

# На радасць спажыўцам

■ Кастусь Александровіч

**У сферы айчыннага гандлю рынкавыя пераўтварэнні ідуць шпарка, хоць і яму час ад часу перападае ад умяшання розных чыноўнікаў.**

Праўда, у буйным Пастаўскім раёне дагэтуль не была прадстаўлена самая дынамічная кампанія краіны "Еўраопт", і многія жыхары рэгулярна ездзілі за буйнымі пакупкамі ў суседнія Глыбокае і Мядзел. Тут таксама насельніцтва актыўна карысталася бясплатнымі аўтобусамі "Еўраопта" і вымушана было займацца такім вось выязным гандлем. Да радасці шматлікіх спажыўцоў ранейшая манаполія даволі развітай тут спажывецкай кааперацыі, прадстаўленай чатырмя супермаркетамі сеткі "Белспажыўсаюза" "Родны кут", нарэшце спынена. Праўда, папярэднічалі гэтаму не зусім спрыяльныя абставіны. У райцэнтры па патрабаванню Міністэрства гандлю быў закрыты магазін сеткі "Дабраном", які таксама карыстаўся папулярнасцю ў пастаўчан і жыхароў раёна. У гэтай гандлёвай кропцы, на жаль, не вельмі вялікія гандлёвыя плошчы і бывае цеснавата. Аднак людзей з-за зніжэння іх даходаў і пакупніцкай здольнасці такія абставіны не спыняць. Дарэчы, адкрыты ў Паставах магазін "Еўраопта" стаў 352-м па ліку гандлёвым аб'ектам папулярнай кампаніі, якая развіваецца найбольш імкліва. Толькі сёлета па краіне яшчэ ў 8 буйных гарадах і райцэнтрах ягоныя магазіны сталі працаваць у найбольш сучасным фармаце "гіпермаркетаў", а ўсяго іх прыбавілася з пачатку года больш 60. Прыход "Еўраопта" у гэты заходні рэгіён вобласці прымусіць і кааператараў канкурываваць, зніжаць цэны, праводзіць яшчэ болей розныя акцыі, ярмаркі-распрадажы тавараў.

### Глыбоцкі раён

# Да бяды – адзін крок

■ Чэслаў Якубовіч.

**Рэдка які дзень абыходзіцца на тэрыторыі вобласці, каб не фіксавалася ніводнага пажару з пашкоджаннем будынкаў і жылфонда, а людзі не атрымоўвалі траўмы, а то і гінулі ў агні.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне ў адзін з дзён позняй восені супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях у рамках акцыі "За бяспеку разам" пастараліся абследаваць як мага болей домаўладанняў на тэрыторыі Удзелаўскага сельсавета. Як правіла, у першую чаргу правяраліся тыя грамадзяне, якія патэнцыйна могуць дапусціць з'яўленне ў доме "чырвонага пеўня". З такімі супрацоўнікі РАНС праводзілі прафілактычныя гутаркі, рэкамендавалі ўстанавіць пажарныя апавяшчальнікі, а пры выяўленні парушэнняў правілаў супрацьпажарнай бяспекі прымалі адпаведныя меры. Адна з мясцовых пенсіянерак нават перад прыходам супрацоўнікаў інспекцыі не пасаромелася добра "замачыць" атрыманне пенсіі, піла і курыла ў нецвярозым стане прама на канапе. Дарэчы, такія паводзіны вельмі часта прыводзяць потым да гібелі падпітых курцоў на пажарах. Як на грэх, ужо неўзабаве пасля правядзення гэтага рэйду ў раёне быў зафіксаваны чарговы пажар. Раніцай загарэўся адзін з прыватных гаражоў у гарпасёлку Падсвілле. У памяшканні плошчай 4 на 6 метраў агонь моцна пашкодзіў сцены і дах і практычна знішчыў яшчэ не стары легкавы аўтамабіль Рэно-Сцэнік 2004 года выпуску. З-за чаго адбыўся гэты вогненны інцыдэнт, будзе ўстаноўлена пазней.

# Аб самым надзённым

## НА ФОНЕ СІРЫЙСКАЙ ЭПАПЕІ РАСІІ ЕЎРАСАЮЗ ПРЫПЫНІЎ САНКЦЫІ Ў АДНОСІНАХ БЕЛАРУСІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Паколькі імідж Беларусі ў свеце змяніўся ў лепшы бок, то і А.Лукашэнка дае ўказанні членам урада дзейнічаць больш эфектыўна і прадаваць болей нашых тавараў на заходнім накірунку.**

Яшчэ перад нядаўнімі прэзідэнцкімі выбарамі кіраўніцтва Беларусі не без падстаў разлічвала на адмену ўведзеных Брусэлем большасці санкцый і нармалізацыю адносін з ЕС. Дарэчы, хто не ведае, дыпламатычныя адносіны паміж нашай краінай і гэтым буйнейшым аб'яднаннем народаў Еўропы былі ўстаноўлены даўно, яшчэ ў жніўні 1992 года. Зараз менавіта Еўрасаюз стаў для беларусаў буйнейшым гандлёвым партнёрам, паколькі гандаль з Расіяй апошнім часам істотна зменшыўся з-за шэрагу абставін, якія значна пагоршылі ўзровень жыцця ўсходніх суседзяў і адносіны да рускіх у цэлым у свеце, асабліва на Захадзе.

На шчасце, за апошнія месяцы значна знізіўся ўзровень супрацьстаяння на Данбасе, аднак Крэмль пачаў сваю пакуль паветраную ваенную аперацыю ў залітай крывёй грамадзянскай вайны Сірыі. З гэтай нагоды нават рыторыка вакол размяшчэння расійскай авіябазы пад Бабруйскам прыціхла, бо Пуціну, магчыма, стала не да гэтых планаў. Беларускі міністр абароны, генерал Андрэй Раўкоў невыпадкова публічна заявіў, што няма сэнсу размяшчаць расійскія самалёты на нашай тэрыторыі. Услед з ім з падобнай заявай выступіў і беларускі міністр замежных спраў У. Макей. Зразумела, ніводны наш міністр не будзе казаць такія рэчы без узгаднення з вышэйстаячым начальствам і, тым больш, з Вярхоўным Галоўнакамандуючым.

Верагодна, думаць, што пытанне з гэтай авіябазай канчаткова вырашылася, будзе няправільна. Аднак, падобна на тое, што нашы суседзі ў сірыйскіх пясках могуць завязнуць надоўга, штодзень растуць іх ваенныя расходы і змяншаюцца валютныя запасы, якіх усё меней і меней у расіян, а іх эканоміку працягвае ліхарадзіць. Гэта, у сваю чаргу, негатыўна адбіваецца і на стане няпростых спраў на многіх айчынных прадпрыемствах.

І вось мы дачакаліся чарговай адлігі ў адносінах афіцыйнага Мінска з Захадам. Дарэчы, яшчэ летам Брусель адмяніў санкцыі супраць звыш 20 уплывовых чыноўнікаў і чатырох беларускіх кампаній. Паспрыяла гэтаму выйгрышная нейтральная пазіцыя нашай краіны наконт вострага расійска-украінскага канфлікта і тое, што беларускаясталіцасталапляцоўкай для правядзення перамоў варагуючых бакоў і заключэння Мінскіх пагадненняў аб урэгуляванні сітуацыі на Данбасе. Канчаткова прадвызначыла прыпыненне санкцый вызваленне з турмаў напрыканцы жніўня ўсіх палітзняволеных, а потым і спакойнае правядзенне прэзідэнцкіх выбараў без арыштаў і ўзрушэнняў, як раней.

Напярэдадні інаўгурацыі нязменнага беларускага лідара Еўрасаюз зрабіў яму своеасаблівы падарунак, адмяніўшы санкцыі пакуль на 4 месяцы супраць непасрэдна А. Лукашэнкі, ягоных сыноў і яшчэ 170 уплывовых чыноўнікаў, таксама ўсіх айчынных кампаній. У "чорным" спісе ЕС засталіся толькі 4 сілавікі, якія, па меркаванню заходніх экспертаў, маюць пэўнае дачыненне да таямнічага знікнення і, магчыма, нават забойстваў у Беларусі некалькіх вядомых дзеячаў апазіцыі. Такое рашэнне, як і пэўнае пацяпленне ў беларуска-амерыканскіх адносінах, не можа не радаваць кожнага разумнага беларуса.

У бліжэйшай перспектыве наша краіна можа разлічваць на паступовы рост экспарту на Захад, павелічэнне замежных інвестыцый, атрыманне крэдытаў, і на прыход патрэбных інвестараў. Паколькі імідж Беларусі ў свеце змяніўся ў лепшы бок, то і А.Лукашэнка дае ўказанні членам урада дзейнічаць больш эфектыўна і прадаваць болей нашых тавараў на заходнім накірунку. Сапраўды, цэны на закупляемыя ў Расіі энерганосьбіты вельмі нізкія, спецыялісты і рабочыя нашы кваліфікаваныя, падцягнуліся ў шэрагу галін і ў тэхналагічным плане – нічога не перашкаджае плённа працаваць, гандляваць з замежжам.

Вельмі хацелася б таксама, каб Беларусь прасунулася наперад і ў вырашэнні візавага пытання з ЕС для сваіх суайчыннікаў. Беларусы набываюць такія самыя дарагія ў СНД візы за 60 еўра і з'яўляюцца сусветнымі рэкардсменамі па колькасці атрыманых шэнгенскіх віз на тысячу насельніцтва. На жаль, у падвешаным стане колькі ўжо гадоў застаецца пытанне адкрыцця малога прыгранічнага руху па аблегчанаму варыянту з Польшчай і Літвой. Штосьці тут ужо віна цалкам беларускага кіраўніцтва, якое не хоча свядома ісці насустрач свайму народу па палітычных і эканамічных пытаннях, бо яшчэ болей валюты стане вывозіцца з Беларусі ў прыгранічча, дзе тавары танней. Пакуль жа, толькі ў 2014 годзе колькасць атрыманых беларусамі шэнгенскіх віз вырасла на 13% і дасягнула 880 тысяч.

Між тым, ужо афіцыйна ўсе ў нас прызнаюць, што сітуацыя ў беларускай эканоміцы зараз вельмі складаная. З пачатку года дзяржаўны доўг Беларусі вырас на 53,6%. Нашы ўлады паспяшылі супакоіць Крэмль, што нармалізацыя стасункаў з Еўрасаюзам ніяк не паўплывае на беларуска-расійскія адносіны. Беларускія ўлады на самай справе жадаюць з Еўропай мець у першую чаргу больш цесныя ганлёва-эканамічныя адносіны і застаецца пры гэтым саюзніцай Расіі. Простым жа людзям застаецца толькі чакаць, ці будуць адменены ўвогуле праз чатыры месяцы санкцыі ЕС, а ў далейшым і іншыя бар'еры, абмежавальныя меры, якія не дазваляюць беларусам адчуваць сябе раўнапраўнымі ў агульнай еўрапейскай сям'і народаў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.12.15 | | | | Пятніца 04.12.15 | | | | Субота 05.12.15 | | | | Нядзеля 06.12.15 | | | | Пан. 07.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -2 | 0 | +1 | +2 | +3 | +4 | +2 | +2 | +3 | +3 | +3 | +4 | +4 | +4 | +4 | +7 | +7 | +8 |
| Ціск | 753 | 755 | 756 | 756 | 756 | 755 | 754 | 751 | 750 | 751 | 751 | 749 | 748 | 748 | 746 | 744 | 746 | 748 | 750 |
| Вецер м/сек | 3 С | 1 Ю-З | 2 Ю-З | 3 Ю | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 3 Ю-З | 2 С-З | 3 Ю | 4 Ю-З | 3 Ю-З | 4 Ю-З | 6 Ю-З | 7 Ю-З | 6 З | 6 Ю-З | 6 Ю-З |
| Вільготнасць | 95 | 98 | 92 | 94 | 94 | 96 | 93 | 90 | 94 | 97 | 96 | 93 | 95 | 95 | 91 | 92 | 93 | 96 | 94 |

## Дзень за днём

**Страты айчынных прадпрыемстваў і арганізацый выраслі сёлета ўжо ў 3 разы да 27,1 трлн. рублёў. Большасць прапаноў МВФ А. Лукашэнка падтрымаў. Экспарт беларускіх нафтапрадуктаў скараціўся на трэць. Палата Прадстаўнікоў вырашыла падтрымаць прадпрымальнікаў. Новыя банкаўскія ўклады ў Беларусі з 1 красавіка 2016 будуць абкладаць 13 % падаткам на даходы ад дэпазітаў. Банкі знізілі стаўкі на дэпазіты на адзыўныя ўклады. Літва ўвяла дадатковы кантроль на граніцы з Беларуссю. У Мінску адкрыўся першы супер-гатэль сеткі Hilton з фітнас-цэнтрам.**

# Важнейшыя навіны свету

**Саудаўская Аравія.** Упершыню з 2009 года цана барэля нафты 20 краін-экспарцёраў АПЕК упала ніжэй 40 USD, у членаў картэля рэзка знізіцца гадавая выручка.

**Францыя.** Пасля серыі бесчалавечных тэрактаў ісламістаў у сямі месцах Парыжа, гібелі і раненняў соцень людзей краіна закрыла граніцы і ўвяла надзвычайнае становішча.

**Англія.** Урад краіны пасля тэрактаў у Францыі істотна павысіў фінансаванне дзейнасці брытанскай контрразведкі МІ-5, знешняй разведкі МІ-6, Цэнтра ўрадавай сувязі.

**Сірыя.** Адразу пасля прызнання ФСБ РФ катастрофы самалёта А321 тэрактам, Расія зноў нанесла моцны ракетны ўдар з мора па аплоту баевікоў "Ісламскай дзяржавы".

**Аўстрыя.** Удзельнікі міжнародных перамоў, главы Міністэрства замежных спраў з 20 краін свету дамовіліся ў Вене правесці ўсеагульныя выбары ў Сірыі праз 18 месяцаў, дабіцца там перамір'я.

**Бельгія.** Па справе аб тэрактах у Парыжы паліцыя арыштавала 7 чалавек, серыю нападзенняў арганізаваў бельгіец мараканскага паходжання А. Абауд, баявік "ІД".

**Украіна.** Як устанавілі следчыя Генеральнай пракуратуры, рашэнне аб сілавым падаўленні акцый пратэсту на Майдане прымаў асабіста збеглы былы прэзідэнт краіны В. Януковіч.

**Азербайджан.** Прэзідэнт І.Аліеў заявіў, што краіна не мае патрэбы ў інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць на фоне нібыта існуючай там "ісламафобіі і дыскрымінацыі".

**ЗША.** Хірургі краіны ўпершыню ў свеце за 26 гадзін аперацыі правялі паспяхова поўную перасадку твару моцна знявечанаму на пажары 41-гадоваму пажарнаму П. Хардысану.

**Японія.** Урад краіны распрацаваў дадатковыя меры супраць рэцэсіі і па стымуляванню эканамічнай актыўнасці, бо з пачатку года японскі ВУП зменшыўся на 0,8 %.

**Расія.** У 2016 годзе, як папярэдзіў Цэнтр макраэканамічнага аналізу і прагнозу, краіну чакае заціжны банкаўскі крызіс, банкротствы ў галіне, рост беспрацоўя перавысіць 6%.

**Украіна.** Услед за абстрэламі краіны з боку псеўдарэспублік "ДНР" і "ЛНР" Крэмль увёў забарону на ўвоз поўнасцю украінскага харчавання ў Расію з 1 студзеня 2016 года.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў прызнаўся, што пакуль не можа знайсці чалавека, які б у далейшым змог замяніць яго на пасадзе і заклікаў казахаў трымацца за сябе.

**Грэцыя.** У моры паблізу берагоў краіны ля горада Нідзіры адбыўся моцны землятрус на ўсход ад вострава Нефкада магнітудай 6,5 бала, на шчасце, разбурэнняў і ахвяр не было.

**Швейцарыя.** За махінацыі з допінгам савет IAAF адхіліў каманды Расіі па лёгкай атлетыцы ад удзелу ў міжнародных стартах, яны не дапушчаны і да Алімпіяды-2016.

*По дадзеных розных СМІ і інтэрнэтрэсурсаў*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эксперт-міжнароднік А. Фёдараў заявіў, што з-за актывізацыі тэрарыстаў-ісламістаў і Расія можа ўзмацніць ахову сваіх граніц, у тым ліку і з Беларуссю.

**Жлобін.** Міністр эканомікі У. Зіноўскі аб'явіў, што ў бліжэйшыя 5 гадоў чакаюцца масавыя скарачэнні на БМЗ, а таксама на іншых заводах-гігантах МАЗ, МТЗ і іншых.

**Брэст.** З-за недахопу сродкаў у абласным цэнтры пачалі перыядычна адключаць поўнасцю з 0.00 да 5.00 раніцы вулічнае асвятленне па рашэнню гарвыканкама.

**Смалявічы.** Праз пару тыдняў пошукаў у лясным гушчары на тэрыторыі раёна знайшлі цела забітай вядомай лёгкаатлеткі зборнай Беларусі 31-гадовай Юліі Балыкінай.

**Магілёў.** Стратнымі ў вобласці сталі ўжо 124 прадпрыемствы і арганізацыі, калі летась іх было 88, з пачатку года чыстыя страты дасягнулі астранамічнай сумы – 2,4 трлн. рублёў.

**Мінск.** Генерал-лейтэнант міліцыі запасу М. Грыб рэкамендаваў узмацніць падрыхтоўку беларускіх сілавікоў да праявдзення антытэрарыстычнай дзейнасці.

**Гродна.** Каля 5 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў прыгразілі спыніць працу пасля Новага года, калі ім забароняць ганляваць на рынках горада без сертыфікатаў якасці.

**Мінск**. Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч папярэдзіла, што трагедыя ў Парыжы і над Сінаем – гэта толькі пачатак, бо ЕС і Расія бездапаможныя перад вар'ятствам адзіночак.

**Круглае.** Раніцай у вёсцы Слаўнае 39-гадовы кіроўца іншамаркі збіў насмерць 15-гадовага вучня, які ішоў па краю дарогі да школьнага аўтобуса, сёлета ў РБ загінула так 5 дзяцей.

**Мінск.** У Міністэрстве абароны правялі выхаваўчую гутарку з ваенным рэдактарам агенства "Ваяр" У. Кажэўнікавым за яго публічныя антыбеларуския выказванні.

**Капыль.** Пад раніцу ў тумане на дарозе ля вёскі Васілеўшчына сутыкнуліся 3 легкавыя аўтамабілі і грузавік, усе ўдзельнікі ДТЗ атрымалі розныя раненні і былі шпіталізаваныя.

**Магілёў.** Следства па крымінальнай справе экс-дырэктара "Магілёўсаюздруку" выявіла шэраг фактаў махінацый і хабару, яму нават перадалі дарагую стрэльбу маркі "Берэтта".

**Мінск.** Упершыню на тэлебачанні, на тэлеканале "Беларусь-1" паказалі інтэрв'ю з асуджаным на расстрэл за жорсткае забойства дзяўчыны 21-гадовым злачынцам.

**Пухавічы.** Пасля вяртання дамоў з-пад Луганска КДБ вынес толькі папярэджанне 22-гадоваму мясцоваму хлопцу, бо не было доказаў яго ўдзелу ў баявых дзеяннях за "ЛНР".

**Рэчыца.** З-за адсутнасці грошай на кармы для пародзістых скакуноў 8 альбо 9 коней з мясцовага коннаспартыўнага комплекса прыйшлося здаць на мясакамбінат на ўбой.

*По дадзеных розных СМІ і інтэрнэтрэсурсаў*

## У Беларусі змяняюцца правілы ліцэнзавання асобных відаў дзейнасці




■ БЕЛТА

**Ліцэнзіі на віды дзейнасці, якія раней выдаваліся ў Беларусі на 5-10 гадоў, цяпер будуць безтэрміновымі. Гэта прадугледжана ўказам ад 26 лістапада 2015 года № 475, паведаміў Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі.**

Указам таксама паменшана колькасць дакументаў і звестак, што падаюцца для атрымання ліцэнзіі, а таксама ўстаноўлена магчымасць звароту спашукальніка ліцэнзіі або ліцэнзіята ў ліцэнзуючы орган праз накіраванне неабходных матэрыялаў па пошце або ў выглядзе электроннага дакумента.

Дакументам скарочана колькасць відаў дзейнасці, што ліцэнзуюцца, у галіне вытворчасці каляровых металаў, забеспячэння прамысловай, пажарнай і экалагічнай бяспекі, медыцынскай дзейнасці, давання ў карыстанне каналаў электрасувязі і ў іншых сферах.

Разам з тым, устаноўлены больш жорсткія ліцэнзійныя патрабаванні і ўмовы да асоб, якія ажыццяўляюць дзейнасць у галіне выкарыстання атамнай энергіі, медыцынскую дзейнасць і звязаную з аказаннем юрыдычных паслуг (у тым ліку рыэлтарскіх), страхавую дзейнасць, судова-экспертную дзейнасць.

Асноўныя палажэнні ўказа набываюць моц 1 сакавіка 2016 года.

## У камандзіроўкі можна ездзіць на маршрутках

■ FINANCE.TUT.BY

**На міжгародніх маршрутках можна ездзіць у камандзіроўкі, паколькі пасажыру выдаюць законны білет, патлумачыла падчас онлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА кансультант упраўлення фінансавання дзейнасці дзяржаўных органаў Міністэрства фінансаў Вольга Каралінская.**

Наймальнік павінен аплаціць праезд да месца камандзіравання і назад на маршрутным таксі, якое ажыццяўляе міжгародняя рэйсы.

«Пры ажыццяўленні перавозкі пасажыраў у рэгулярных зносінах аўтобусамі катэгорыі М2 (маршрутнымі таксі) пасажыру выдаецца квіток, афармлены ў адпаведнасці з заканадаўствам, на падставе якога выдаткі на праезд падлягаюць кампенсацыі», - сцвярджае Вольга Каралінская.

А вось пражыванне камандзіраванага супрацоўніка ў аграсядзібе заканадаўствам не прадугледжана, і таму грошай за начлег работнік у гэтым выпадку не атрымае. Паводле слоў спецыяліста, такія аб'екты «прызначаныя для часовага знаходжання грамадзян у мэтах атрымання паслуг, што аказваюцца суб'ектам аграэкатурызму для адпачынку, аздараўлення, азнаямлення з прыродным патэнцыялам рэспублікі, нацыянальнымі культурнымі традыцыямі без занятку працоўнай, прадпрымальніцкай, іншай дзейнасцю (п.2 указу №372 «Аб мерах па развіцці аграэкатурызму ў Рэспубліцы Беларусь ")».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Найгоршае становішча сярод абласцей Беларусі стала на Віцебшчыне, дзе ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў і арганізацый дасягнула ўжо 26,5%.

**Чашнікі.** Беларускі інвестар упершыню ў вобласці сёлета набыў за 12,9 млрд. рублёў кантрольны пакет акцый ААТ "Універсалторг" з 10 магазінамі і 12 сталовымі і буфетамі.

**Полацк**. Распрацоўка тэхнолагаў мясцовага хлебазавода сухары "Стралецкія малочныя" атрымала залаты медаль рэспубліканскага конкурса якасці прадуктаў "Ласунак-2015".

**Віцебск.** У абласным цэнтры пабудавалі сёлета 18 шматпавярховак, да канца года будуць здадзены яшчэ 3 новыя жылыя дамы на 120, 160 і 200 кватэр, з іх – адзін арэндны.

**Ушачы.** З дапамогай верталёта авіяцыі МНС на магілу народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна даставілі па паветры помнік з камянявалуна вагой 2,5 тоны, як ён завяшчаў.

**Лынтупы.** Пры спробе нелегальна перабрацца ў Літву, пагранічнікі затрымалі зноў групу з 10 грамадзян В'етнама, яшчэ 6 такіх нелегалаў затрымалі ўжо літоўскія пагранічнікі.

**Мёры.** За кошт транспартнага падатку КУП "Віцебскаблдарбуд" правёў капітальны рамонт і рэканструкцыю ўчастка аўтадарогі Н3027 Міёркі – Рускае Сяло.

**Глыбокае.** Для правядзення вакцынацыі супраць грыпу сёлета раён набыў больш 15 тысяч доз, дзякуючы прышчэпкам ніводная са школ не закрывалася на карантін 6 гадоў запар.

**Чашнікі.** Толькі праз месяц пошукаў знайшлі цела загінуўшага на рыбалцы на возеры на лодцы 32-гадовага жыхара раёна, восенню ў вобласці так загінула 6 рыбакоў без жылетаў.

**Бешанковічы.** Да наступлення халадоў у вёсцы Застарынне выявілі і знеслі яшчэ 2 пустуючыя дамы, іх усё больш, бо ў Астравенскім сельсавеце памерла ўжо 27 вяскоўцаў.

**Навапольцк.** З наступнага года нацыянальны конкурс юных выканаўцаў эстраднай песні атрымае статус Міжнароднага, сёлета ён сабраў 45 удзельнікаў з розных куткоў краіны.

**Пастава.** На працягу тыдня адразу 4 працаздольныя жыхары раёна ўчынілі, на шчасце, няўдалыя спробы самагубства, усіх іх адправілі пад вартай на лячэнне ў псіхіятрычную бальніцу.

**Орша.** Пасля закрыцця год назад на капітальны рамонт даху і 3-га паверху, замены падлогі зноў запрацавала СШ у гарпасёлку Арэхаўск, у ёй вучацца 227 дзяцей.

**Езярышча.** На дзяўчынку з сацыяльна-педагагічнага прытулку напала і пакусала яе бадзяжная аўчарка, выхавальніку за недагляд пагражае да 4-х гадоў турмы.

**Браслаў.** Пры падтрымцы Полацкага пагранатрада, "Беларусбанка", АГА "Белая Русь" у выхаванцаў Друйскага дзіцячага дома з'явіліся новая трэнажорная зала, пакой турызма.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

## Глыбокаму не хапае фестываляў? Тады можна праводзіць і фестываль сярэднявечнай культуры!

# Яго можна назваць – “Корсак”!

Хто б мог падумаць! Польскія Корсакі зачасцілі ў Глыбокае! Ды яшчэ цэлымі сем’ямі. На колькі іх прапрапрадзяды маюць дачыненне да нашай гісторыі? Такое пытанне мы не ставім! Адно вядома, што Язэп Корсак, ваявода Мсціслаўскі, стараста Дзісненскі, пасол на Сойм Рэчы Паспалітай, уладальнік паўночнаўсходняй часткі Глыбокага (мястэчка Глыбокае), не меў наўпроставых нашчадкаў. Як сказана ў энцыклапедычных даведніках – ён “памёр бязжонны”. Свае маёнткі завяшчаў на рэлігійныя справы, у тым ліку на будаўніцтва глыбоцкіх святыняў.

Між тым, родавых ліній Корсакаў было не так ужо і мала! Корсакі удзельскія, Корсакі залескія, Корсакі галубіцкія, Корсакі бабыніцкія, зразумела, і Корсакі глыбоцкія. Усе Корсакі нешта пакінулі пасля сябе. Касцёл – у Удзеле, сядзіба і касцёл (цяпер мамайская царква) – у Азерцах, парк – у Залессі, дзе яшчэ захаваліся стайня і некаторыя гаспадарчыя пабудовы. Пра Глыбокае і Беразвечча – самі ведаеце, памяць пакінуў – наш Язэп Корсак Глыбоцкі.

Корсакі, дарэчы, пакінулі свой след і ў Язне. Мы некалі пісалі, мо не памятаеце, аб адным з цудаў Беларусі, які знаходзіўся тут. На могілках стаяла статуя Панны Марыі, якая паварочвалася тварам да таго, хто праходзіў побач. Краязнаўцы, некаторыя з якіх маюць тэхнічную адукацыю, так і не знайшлі адказу на пытанне: якім чынам спрацоўваў механізм, што паварочваў статую?

Можна нагадаць, што і назоў вёскі Дзмітраўшчына Глыбоцкага раёна паходзіць – ад Змітра Корсака, якому належала вёска і тамтэйшыя землі.

Атрымліваецца, з якога ракурсу не глядзі, усё, што звязана з Корсакамі – усё вакол Глыбокага! Глыбокае – гіпатэтычная “сталіца” Корсакаў!

Вось тут мы і падыходзім да сакраментальнага пытання: “Можа Глыбокаму не хапае яшчэ аднаго фестывалю? Фестывалю сярэднявечнай культуры? Калі так, то яго можна назваць – “Корсак”!”

У “сталіцу” Корсакаў можна запрашаць не толькі нашчадкаў шляхецкага роду Корсакаў з Польшчы, але і тых, хто жыве на Беларусі і мае прозвішча – Корсак. Паводле тэлефоннага даведніка ў Глыбоцкім раёне – 6 абанентаў па прозвішчу Корсак. Магчыма, Корсакаў у нас і больш, бо не ўсе маюць патрэбу ў хатніх тэлефонах, а карыстаюцца мабільнымі тэлефонамі. А колькі Корсакаў на Беларусі? На памяць, адразу, прыходзіць Зміцер Корсак, музыка-віртуоз, які ўжо “прапісаўся” на парафіяльных фэстах у Лучаі. І шмат хто з глыбоцкіх, якія наведваюць лучайскія фэсты, пагодзіцца з аўтарам гэтых радкоў – Зміцер з гонарам, са сваім акардэонам, мог бы выступіць і ў Глыбокім … на фестывалі – “Корсак”. Зрэшты, на фэстываль могуць прыехаць і дэлегацыі вёсак і мястэчак, дзе “наслядзілі” Корсакі: Дзісна, Язна, Удзела, Залессе, Бабынічы (Полацкі раён), Галубічы, Пятроўшчына, Узрэчча, Патупы, Мярэцкія (маёнтак Літоўшчына – цяпер частка в. Мярэцкія), Дзмітраўшчына, Азерцы, Псуя (Галубоў сад – колішні парк у маёнтку Корсакаў)…



Музыка-віртуоз Зміцер Корсак, часты госць парафіяльных фэстаў у Лучаі.

Фестываль сярэднявечнай культуры – што гэта? Натуральна, рыцарскія турніры! Шкада, у нас толькі фрагментарна захаваўся меркаваны родавы замак Корсакаў – альхеж, які ўбудаваны ў царкву, бо для рыцарскіх турніраў патрэбны адпаведны фон – замак. Але і глыбоцкі стадыён – таксама, не кепскае месца, а фон – касцёл і царква на дальнім плане. У Полацку падобныя фэсты праводзяцца таксама не на фоне замка, а на фоне Сафійскага сабора.

Фестываль сярэднявечнай культуры, натуральна, не абыходзіцца і без сярэднявечнай музыкі ў сучаснай апрацоўцы. На Беларусі – дастаткова адпаведных гуртоў, якія папулярызуюць падобны накірунак, напрыклад, “Стары Ольса”.

Дарэчы, як стала вядома аўтару з крыніцаў, якія заслугоўваюць даверу, адзін з польскіх Корсакаў, які мае праектнае бюро, пагадзіўся на дабрачынных умовах зрабіць праект аднаўлення будынка кляштара кармелітаў у Глыбокім (будынак, які прылягае да царквы). Гэта можа быць добрым падарункам нашаму гораду, бо толькі распрацоўка праектнакаштарыснай дакументацыі – часта каштуе да 60% ад кошту аднаўлення (рэстаўрацыі) будынка. Да таго ж, полацкія даследчыкі ўжо правялі аналіз стану будынка, іх заключэнне – будынак можа падлягаць аднаўленню! Усё гэта – рэальныя крокі па пошуку інвестараў для аднаўлення аднаго з гістарычных будынкаў нашага горада.

Натуральна, можа ўзнікнуць пытанне: дзе ўзяць грошы на Фестываль сярэднявечнай культуры ў Глыбокім? А дзе цяпер, штонебудзь, бясплатна! У Браславе, Полацку, Навагрудку, куды аўтар наведваўся на падобныя фестывалі, ваход – платны. Як помніцца, у Браславе, квіток для дарослых – 40 000 рублёў, для школьнікаў – у два разы танней.

Па-другое. Трэба імкнуцца да таго, каб любы падобны фестываль быў самаакупны. Гэта будзе бачна з лічбаў: колькі тон (цэнтнераў) шашлыкоў з’едзена, колькі “барэляў” піва выпіта, колькі штук сувеніраў набыта... І такая дробязь – кожны школьнік купіць ня хоць марозіва ці газіроўку. Любы фэстываль трэба разглядаць, як рухавік для мясцовай эканомікі.



Віктар Дудкевіч, майстар Глыбоцкага дома рамёстваў, робіць “старадрукі” на фестывалі ў Браславе.



Фестываль “Меч Брачыслава” у Браславе.

■ Тэкст: Алена Клімза-Колтан.
Фота: Карына і Марыя Радзюш.

# Дзень радасці ў Лучайскай парафіі

21 лістапада ў аг. Навасёлкі (Лучайская парафія) святкавалі “Андрэйкі”. Свята атрымала сваю назву ад імя святога Апостала Андрэя. Традыцыйна адзначаецца напярэдадні Адвэнту, перыяду ў літургічным годзе Касцёла, які папярэднічае Божаму Нараджэнню.

Дзякуючы падрыхтаванаму анансаванню ў інтэрнэт прасторы, паўдзельнічаць ў свяце змагла моладзь з Варапаева, Дунілавіч, Наваполацка, Шаркаўшчыны і Пастаў.

Навасёлкаўская капліца Божай Міласэрнасці вельмі ўтульная, упрыгожаная дэкарацыямі “Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць” сустрэла гасцей свята. Так атрымалася, што размешчана яна пад адным дахам з цэнтрам культуры, які цесна супрацоўнічае з парафіяй. Хаця “Андрэйкі” маюць вясёлы і забаўляльны характар, але ў гэты дзень нельга забываць і пра духоўны аспект свята. Распачалося яно з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Вельмі дарэчы была прысутнасць гурта “Laudans” (назва азначае “праслаўленне Пана”), які супольна з прысутнымі адараваў, спяваючы.

Добра падрыхтаваўшы свае сэрцы падчас адарацыйнай малітвы, вернікі прынялі ўдзел у святой Імшы. Запрошаны святар з Варапаева Юрый Вільк падчас казання, прыводзячы жыццёвыя прыклады, разважаў над тым, што кожны чалавек шукае Бога.

Вядома, што “Андрэйкі” – дзень радасці, весялосці і забаў. Таму наступнай часткай мерапрыемства стала канцэртная праграма, падрыхтаваная самымі лепшымі сябрамі-артыстамі Лучайскай парафіі. Сапраўднае сузор’е выканаўцаў прыбыло раздзяліць радасць гэтага дня. Гурт “Laudans”, акрамя ўпрыгожвання сваімі спевамі літургічнай часткі, выканаў некалькі сваіх твораў на канцэрце. Падчас выступу “залатога акардэону Беларусі”-Дзмітрыя Корсака, адбылася сапраўдная імправізацыя. Ужо пад першыя акорды кампазіцыі “Hej, sokoly!” не ўсядзеў на месцы ксёндз Юрый Вільк. Святар пад акампанемент віртуоза-акардэаніста заспяваў гэтую песню. Тут жа падхапіла ідэю сястра Магдалена з Наваполацка. Трыа атрымалася - аб гэтым сведчылі несамавітыя авацыі.

Адметнасцю канцэртнай праграмы стала прэзентацыя новага альбома гурта “Рэха”. Андрусь Такінданг, даўшы назву па аднайменнай песні з альбома “Перайначыць”, выказаў надзею, што “мастацтва можа перайначыць вараженчу на мір, нянавісць на прыязнасць. Перайначыць найперш сябе, а затым падзяліцца радасцю, смуткам, спевам з усімі.” “Рэхаўцы” з’яўляюцца ўжо сапраўднымі “старажыламі” Лучайскіх святаў і пастаяннымі ўдзельнікамі з 2012 года. Напэўна, так як любяць і прымаюць Андруся і яго гурт, не прымаюць нікога. Шчыры, сціплы Андрусь не раз зазначаў, што заўсёды едзе ў Лучай, як да сябе дамоў.

Скончылася свята супольным выкананнем усіх прысутных пад акампанемент Андрэя Лугіна песнімалітвы “Малюся за цябе, Беларусь!”. Ксёндз-пробашч паблаславіў удзельнікаў імпрэзы на шчаслівае вяртанне дахаты і запрасіў да удзелу ў “Мікалайках”, якія адбудуцца ў Лучаі 6 снежня.

Сустрэча “Андрэйкі” планавалася ў першую чаргу для моладзі, але людзі рознага ўзросту, якія былі на свяце, здаецца памаладзелі, праводзячы час з малітвай, радасцю, весялосцю побач з маладым пакаленнем, якое з’яўляецца будучыняй Касцёла.






# Заставайцеся людзьмі!

## 1 снежня – Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу

**Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу ўпершыню быў абвешчаны Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя 1 снежаня 1988 года, гэты дзень набыў статус штогадовай падзеі ў большасці краін свету.**

■ **Л. Козел,**
*загадчык аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Дэвіз Сусветнага Дня прафілактыкі СНІДу – **«Імкненне да нуля: нуль новых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. Нуль дыскрымінацыі. Нуль смерцяў з прычыны СНІДу»**. Мэтай Сусветнага дня прафілактыкі СНІДу з'яўляецца павышэнне дасведчанасці аб ВІЧ-інфекцыі і дэманстрацыя міжнароднай салідарнасці перад тварам эпідэміі.

Паводле статыстыкі Сусветнай асацыяцыі аховы здароўя, на планеце жыве больш за 35 мільёнаў чалавек, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту (ВІЧ), і кожны дзень гэтая лічба павялічваецца яшчэ на 14-15 тысяч. Па ацэнцы ААН ВІЧ-інфекцыя займае 5-е месца сярод прычын смяротнасці ў свеце.

У Рэспубліцы Беларусь на 1 лістапада бягучага года зарэгістравана 19406 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 15 031. У Віцебскай вобласці зарэгістраваны 1051 выпадак ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 835. У Глыбоцкім раёне з 1987 года па цяперашні час было выяўлена 8 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, па стане на 1 лістапада – адзін ВІЧ-пазітыўны памёр.

Пераважная колькасць ВІЧ-пазітыўных – гэта маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Агульная колькасць выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ў гэтай узроставай групе складае 9806 (удзельная вага ў агульнай структуры ВІЧ-пазітыўных – 53,7%). Асноўны шлях распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі – палавы.

Усе ВІЧ-пазітыўныя пацыенты ў Рэспубліцы Беларусь знаходзяцца на дыспансерным назіранні і, калі ў іх ёсць паказанні да прызначэння спецыфічнага лячэння, ім бясплатна прадастаўляюцца лекавыя сродкі. Колькасць такіх пацыентаў на сённяшні дзень складае 6755 чалавек, у тым ліку, 201 дзіця. Своечасова пачаўшы лячэнне прэпаратамі і выконваючы ўсе ўказанні лекара, людзі, якія жывуць з ВІЧ, могуць пражыць доўгае і паўнавартаснае жыццё. Якасць жыцця ВІЧ-пазітыўных людзей, дзякуючы гэтым лекавым прэпаратам, амаль нічым не адрозніваецца ад якасці жыцця людзей без ВІЧ і зніжае рызыку перадачы ВІЧ іншым людзям.

ВІЧ-інфекцыя – гэта захворванне, якое ўзнікае пры пранікненні ў арганізм чалавека віруса імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ). Трапляючы ў арганізм чалавека, вірус паступова паражае клеткі крыві, якія з'яўляюцца часткай імуннай (ахоўнай) сістэмы арганізма.

Крыніцай інфекцыі з'яўляецца чалавек на ўсіх стадыях развіцця захворвання. ВІЧ-пазітыўныя людзі могуць не здагадвацца аб тым, што яны з'яўляюцца носьбітамі віруса аж да моманту атрымання вынікаў абследавання на ВІЧ, ці да моманту ўзнікнення першых сімптомаў. Пры гэтым пачатковыя сімптомы неспецыфічныя, яны могуць нагадваць іншыя захворванні. На працягу некалькіх гадоў адзінай прыкметай хваробы можа быць павелічэнне лімфатычных вузлоў, затым дадаюцца ўздым тэмпературы, працяглыя растройствы кішэчніка, патлівасць, пахуданне. Толькі абследаванне на ВІЧ-антыцелы можа пацвердзіць або абвергнуць ВІЧ-інфікаванне. Здаваць аналіз на ВІЧ-інфекцыю варта праз 3-6 месяцаў пасля сітуацыі, небяспечнай у плане заражэння ВІЧ, гэты час неабходна арганізму для выпрацоўкі антыцелаў да віруса.

Ведаць свой ВІЧ-статус (ВІЧ-статус – наяўнасць або адсутнасць ВІЧ-інфекцыі ў арганізме чалавека) важна для таго, каб:

● высветліць прычыну дрэннага самаадчування і (або) атрымаць інфармацыю аб стане свайго здароўя;

● знізіць рызыку перадачы віруса іншаму чалавеку;

● своечасова пачаць спецыфічнае лячэнне;

● падрыхтавацца да наступлення цяжарнасці, планаваць нараджэнне і выхаванне здаровых дзяцей;

● падтрымаць імунную сістэму і адтэрмінаваць наступленне стадыі СНІД.

СНІД (Сіндром Набытага Імуннага Дэфіцыту) – канчатковая стадыя ВІЧ-інфекцыі, якая характарызуецца зніжэннем функцыі імуннай сістэмы да крытычнага ўзроўню. У выніку чалавек непазбежна захворвае цяжкімі інфекцыйнымі хваробамі, лячыць якія вельмі цяжка, так як арганізм хворага сам ніяк не супраціўляецца развіццю гэтых хвароб.

ВІЧ-інфекцыя перадаецца праз кроў, сперму, вагінальны сакрэт, грудное малако. Для таго, каб адбылася перадача віруса, адна з гэтых вадкасцяў чалавека, які жыве з ВІЧ, павінна патрапіць у крывацёк або на слізістую іншага чалавека. Існуе тры шляхі перадачы віруса:

■ палавы – пры неабароненым палавым кантакце з інфікаваным партнёрам; выкарыстанне прэзерватыва зніжае рызыку заражэння;

■ парэнтэральны (праз кроў) – пры выкарыстанні агульных інструментаў (іголак, шпрыцаў) пры унутравенным уводзе наркотыкаў; ужыванні нестэрыльных медыцынскіх інструментаў, колючых і рэжучых прадметаў (вострыя лёзы, манікюрныя прылады і да т.п.);

■ вертыкальны (ад маці да дзіцяці) – інфекаваная жанчына можа перадаць вірус свайму дзіцяці падчас цяжарнасці, родаў, а таксама пры кармленні грудзьмі.

Вірус імунадэфіцыту чалавека дрэнна захоўваецца ў знешнім асяроддзі. ВІЧ не перадаецца бытавым і паветрана-кропельным шляхам. Немагчыма заразіцца пры дотыку, поціску рукі, сяброўскіх пацалунках, выкарыстанні агульнай пасцельнай бялізны і посуду, пры кашлі і чханні, пры ўкусах насякомых.

Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі прадугледжвае стварэнне перашкоды на шляху віруса ў выглядзе выкарыстання прэзерватываў, ахоўных сродкаў і інструментарыя, напрыклад, пальчатак і масак (там, дзе гэта неабходна), выкарыстанне толькі стэрыльных іголак і інструментаў для праколвання скуры.

**Пры любых падазрэннях, якія ўзніклі ў вас, атрымаць кансультацыю і прайсці тэставанне на ВІЧ (у тым ліку і ананімна) можна ў любой лячэбнай установе.**

**Заставайцеся людзьмі!**
**ВІЧ не перадаецца праз сяброўства!**



# Увага ўзросту



**Аддзелам унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама за 11 месяцаў 2015 года праведзена пэўная работа па павышэнню асабістай і маёмаснай бяспекі пажылых грамадзян, па недапушчэнні здзяйснення ў дачыненні да іх правапарушэнняў і злачынстваў.**

■ **Аляксандр Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

У мэтах зніжэння злачыннасці раённы аддзел унутраных спраў прадпрымае арганізацыйна-практычныя меры, якія ў поўнай ступені ўплываюць на папярэджанні супрацьпраўных паводзінаў у дачыненні да пажылых грамадзян.

Усяго на тэрыторыі Глыбоцкага раёна пражывае 9269 грамадзян пажылога ўзросту (больш за 60 гадоў), з іх адзінокіх – 1034, пажылых грамадзян, якія пражываюць адны – 3121. Супрацоўнікамі РАУС выяўлена 74 асобы асацыяльных паводзін, якія пражываюць з пажылымі грамадзянамі, з гэтымі асобамі праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы. Усяго ўчынена 21 злачынства (у 2014 годзе за аналагічны перыяд часу – 33) у дачыненні да састарэлых грамадзян.

**Каб не стаць ахвярай злачынства, памятайце:**

■ калі выходзіце з дому або кватэры, зачыніце дзверы на ўсе замкі, а таксама вокны і балкон; гэтыя дзеянні павінны стаць звычкай і для іншых членаў Вашай сям'і;

■ пазбягайце размоў на тэму свайго месцазнаходжання, асабліва ў прысутнасці чужых людзей і дзяцей; нагадвайце дзецям, што нельга распавядаць незнаёмым людзям пра тое, хто знаходзіцца дома, а таксама пра тое, дзе могуць захоўвацца ключы ад дома або кватэры;

■ абсталёўвайце сваё жыллё рознымі даступнымі тэхнічнымі прыстасаваннямі абароны;

■ пры з'яўленні асоб цыганскай нацыянальнасці, неадкладна паведамляйце ў РАУС, не ўпускайце іх у дом (кватэру), не здзяйсняйце з імі якія-небудзь здзелкі;

■ абсталёўвайце кватэру ахоўнай сігналізацыяй, усталюйце тэлефон у спальным пакоі;

■ пры з'яўленні незнаёмых грамадзян, якія ажыццяўляюць рэалізацыю тавараў або аказваюць паслугі – паведамляйце ў РАУС на тэлефон «102».

Самае галоўнае – не ўпускайце ў хату незнаёмых людзей і не распівайце з імі спіртныя напоі.

У мэтах узмацнення абароны пажылых людзей ад супрацьпраўных замахаў, павышэння ўзроўню ўзаемадзеяння суб'ектаў прафілактыкі па задавальненні запытаў і патрэбаў названай катэгорыі грамадзян, з 28 лістапада па 6 снежня гэтага года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Увага ўзросту».

# За дарагія падарункі ад жаніхоў неабходна плаціць падатак

**У Беларусі жанчынам, якія атрымліваюць дарагія падарункі ад жаніхоў, неабходна будзе заплаціць падатак, паколькі ў адпаведнасці з заканадаўствам жаніх не з'яўляецца мужам ці блізкім сваяком.**

Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення падаткаабкладання грамадзян, дэкларавання даходаў і маёмасці Міністэрства па падатках і зборах Андрэй Кавалеўскі, адказваючы на пытанні наведвальнікаў інтэрнэт-рэсурсу Onliner.by. Інфармацыя таксама размешчана на сайце МПЗ.

Як зазначыў прадстаўнік падатковага ведамства, даходы ў грашовай і натуральнай формах (кватэра, аўтамабіль і гэтак далей), якія атрыманы, як падарункі ад блізкіх сваякоў (у тым ліку мужа), не абкладаюцца падаходным падаткам з фізічных асоб незалежна ад іх кошту. Такія даходы не падлягаюць падаткаабкладанню, і прадстаўлення падатковай дэкларацыі (разліку) па падаходным падатку не патрабуецца. Пры неабходнасці ў падатковы орган падаюцца дакументы, якія пацвярджаюць блізкае сваяцтва, напрыклад, пасведчанне аб шлюбе. Факт спадчыннасці таксама могуць папрасіць пацвердзіць дакументамі.

Разам з тым, за падарункі ад жаніха падатак заплаціць давядзецца, паколькі ў адпаведнасці з заканадаўствам ён не з'яўляецца мужам ці блізкім сваяком. Аднак, у 2015 годзе падатак трэба будзе заплаціць толькі, калі ў суме падарункі ад асоб, якія не з'яўляюцца роднымі або сваякамі, будуць перавышаць 43.660.000 беларускіх рублёў на працягу года.

Як растлумачыў прадстаўнік МПЗ, у гэтым выпадку ўсе падарункі падсумоўваюцца, а падатак налічваецца на перавышэнне згаданага парогу.

*БелаПАН*

# Парушальнік вёў «Дзённік браканьера», дзе падрабязна апісваў свае прыгоды




**Ахове прыродных багацццяў нашай дзяржавы надаецца асаблівае значэнне, прыгожая і багатая прырода патрабуе аховы і беражлівых адносін.**

■ **А. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Рознымі прыродаахоўнымі службамі штотыдзень затрымліваюцца дзясяткі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, якія падвяргаюцца значным штрафам і іншым пакаранням, аж да пазбаўлення волі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету сістэматычна інфармуе грамадзян аб затрыманых парушальніках і адміністрацыйных мерах, што прынятыя да іх.

І ўсё ж у інспектараў не бывае ні аднаго тыдня, каб яны не затрымалі «гарачага хлопца», які хоча пагуляць з законам у кошкі-мышкі.

Так, 25 лістапада бягучага года, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету праводзілі рэйдавыя мерапрыемствы сумесна з супрацоўнікамі міліцыі на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Маючы пэўныя напрацоўкі па фактах незаконнага палявання паблізу адной з прымежных вёсак раёна, інспектары разам з міліцыянтамі зазірнулі на агеньчык да аднаго з жыхароў вёскі і не дарма. У лазні, дзе часова пражываў малады чалавек, выяўлена мяса дзікіх жывёл, казулі еўрапейскай, кроў, нож і іншыя прадметы, якія паказваюць на не зусім законнае рамяство грамадзяніна Н.

Пасля не доўгіх размоў з міліцыянтамі і інспектарамі, малады чалавек распавёў і паказаў месца незаконнай здабычы двух асобін казулі, выяўлены шкуры, петлі і капканы. Здавалася б, для міліцыянтаў і інспектараў, якія шмат пабачылі, гэта радавы выпадак, калі б не запісы «дзённіка браканьера». Так наш «герой» назваў свае паходы на незаконнае паляванне, усе выпадкі здабычы жывёл ён падрабязна запісваў у сшытку. Магчыма, апісаныя факты гэта і выдумка, гэта выявіць следства, але два факты незаконнай здабычы казулі еўрапейскай ужо зафіксаваныя. Прычыненую прыродзе незаконнымі дзеяннямі шкоду ў памеры 45 млн. рублёў трэба будзе пакрыць.

Следчыя органы разглядаюць пытанне распачынання крымінальнай справы па ч.2 арт.282 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконнае паляванне», парушальнік затрыманы.

**Аб ўсіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-28670, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 8905528, 2494549, 6456678 (МТС).**

*Здымкі з сайта Дзяржаўнай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету*




# Часам складваецца ўражанне, што на рыбалку ходзяць для таго, каб выкінуць хатняе смецце

**Як толькі, лёд скоўвае вадаёмы і можна хадзіць па яшчэ слабым лёдзе, рыбаловы накіроўваюцца на рыбалку, пры гэтым забываючы аб усіх існуючых правілах рыбалоўства і, у першую чаргу, пра асабістую бяспеку.**

■ **А. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Практычна на кожным вадаёме можна сустрэць рыбака з жэрліцамі, які здабывае шчупака і розную белую рыбу, але чамусьці многія рыбаловы забываюць аб захаванні Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі сістэматычна выяўляюць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства – гэта непадпісаныя жэрліцы, лоўля з перавышэннем дазволенай колькасці, лоўля на жэрліцы ў начны час, вылаў маламерных шчупакоў, выкідванне смецця на лёд. Усе гэтыя, здавалася б, дробныя парушэнні прыводзяць да вялікіх штрафаў. Таму Глыбоцкая міжраённая інспекцыя звяртаецца да рыбаловаў-аматараў з просьбай аб захаванні дзеючага заканадаўства, да захавання нашай прыроды, чысціні берагоў вадаёмаў і лясоў.

Рыбакі з жэрліцамі дапускаюць перавышэнне дазволенай колькасці жэрліц, жэрліцы бываюць не падпісаныя, ажыццяўляецца лоўля без неабходных дакументаў на вадаёмах (білет БТПР), вакол месцаў рыбалкі утвараюцца цэлыя горы смецця. Часам складваецца ўражанне, што на рыбалку ходзяць для таго, каб выкінуць хатняе смецце. Усё гэта разглядаецца як парушэнне і цягне адміністрацыйную адказнасць да 20 базавых велічынь, інспектары ўзмоцняць працу па спыненні выкідвання смецця на лёд.

Неабходна адзначыць, што грамадзяне сталі больш законапаслухмянымі, лядовае пакрыццё вадаёмаў значна чысцейшае, смецця менш, парушэнняў менш, і гэта не можа не радаваць прыродаахоўныя органы.

Для аматараў пакатацца па вадаёмах (па моцным лёдзе) на транспартных сродках (квадрацыклы, мапеды, матацыклы, аўтамашыны, трактары) хацелася б нагадаць, што такія асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штрафу ў памеры 30 базавых велічынь. Перасоўваючыся на тэхніцы па лядовым покрыве возера, Вы не толькі парушаеце прыродаахоўнае заканадаўства, але і падвяргаеце сваё жыццё і жыццё блізкіх людзей небяспецы. Пасля працяглай адлігі на лёдзе ўтвараюцца прамыіны, і неабходна выконваць элементарныя правілы паводзін. Ідучы на лёд, вазьміце з сабой сродкі выратавання, вяроўку з грузам на канцы, дошку, выратавальную камізэльку, бо зараз прамысловасць выпускае досыць кампактныя і лёгкія камізэлькі. Памятайце пра сваю асабістую бяспеку.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 («гарачая лінія»), маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



## МНС інфармуе

**на 01.12.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 771;
Гібель людзей – 83, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 31;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –591,1 млн. руб.

